ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 1 (студзень) 2014



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



# Балючая растэрміноўка













Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.




Не крычы ў царстве глухіх.

Віно спявае гучна, але ходзіць крыва.

Круглы дурань прамалінейны.

Трон больш даўгавечны, чым кароль.

І сонца ўсяго не бачыць.

І сабе давярай у меру.

Ты не бачыш сучаснасці, а ўжо глядзіш у будучыню.

Рыў мора, а выкапаў сажалку.

Усё праходзіць, а мы хочам застацца.

Нахабства крычыць, сумленне маўчыць.

Просты ключ ад незамкнёных дзвярэй.

Захоўваць раўнавагу карысна не толькі цыркачу.

**Заўважыў Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*

Добры зрок часам псуе жыццё.

Шчасце не купіш, але і не прадасі.

Скупы нават памылкамі не падзеліцца.

Усё жыццё карыстаўся свежым розумам. Старога амаль не засталося.

Шчасце такое маленькае, што змесціцца ў адной кішэні.

Куды лягчэй, туды і рэкі цякуць.

На памылках будуецца будучыня.

Каб нешта разумнае сказаць, трэба нешта разумнае ведаць.

Багацце хутка псуецца.

**Даслаў Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі раён,*
*в. Звенячы.*

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ



## На дурніцу

Не, не выйшла
Шчасця на дурніцу.
Хоць ты зноўку
Пачынай з нуля!..
Я усё жыццё
Лавіў сініцу,
Спудзіўшы пры гэтым
Жураўля.



## Калі маеш многа грошай…

І жонка робіцца
Харошай,
Калі прыносіш
Многа грошай.



Але як грошай
Многа маеш –
Ужо не жонку
Абдымаеш...




## Кумы



– Давайце вып'ем! –
Куму кум гаворыць, –
Магчыма, мы
Пабачымся не скора. –
Той у адказ:
– А я Вам, кум, зазначу,
Што Вас і так
Ужо амаль не бачу!..

## Змяніліся

На вачах
Мяняецца свет гэты –
Не было
Такога у вяках:
Сталі піць
Гарэліцу кабеты,
Мужыкі
Пайшлі па мужыках...

## Неяк тое будзе...

Кажуць сабе
Людзі:
– Неяк тое
Будзе...
Гэта нам
Шмат шкодзіць:
Неяк
І выходзіць!..






*г. Віцебск.*

# ІГОЛКАТЭРАПІЯ

## Дым у вочы

***Расонскі раён.*** Пусціць дым у вочы паспрабаваў жыхар Санкт-Пецярбурга, калі супрацоўнікі фінансавай міліцыі і даішнікі знайшлі ў яго аўтамабілі 75 тысяч пачак цыгарэт. Як ён толькі не апраўдваўся! Казаў, што змагаецца за здароўе нашай нацыі (тытунёвыя вырабы вёз у Расію), што сам вельмі многа курыць (па сто пачак на дзень), але мужчыну ніхто не паверыў. На нелегальны тавар на суму 825 мільёнаў рублёў наклалі арышт і канфіскавалі.

Зараз матэрыялы па гэтай справе перададзены ў Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці. Няўжо і там жыхар Санкт-Пецярбурга паспрабуе пусціць дым у вочы?

## «Пякучы» прыгавор

***Ліда.*** Ой, і далі ж кантралёры перцу аднаму сталічнаму жыхару, калі выявіліся яго спекуляцыі са спецыямі і фруктамі! Без неабходнай рэгістрацыі мінчанін рэалізоўваў гэтыя тавары з Грузіі з выкарыстаннем рэквізітаў індывідуальнага прадпрымальніка з г. Ліды і сталічнага прыватнага прадпрыемства. Такім чынам з лістапада 2012 па чэрвень 2013 года спекулянт змог зарабіць больш за шэсць мільярдаў рублёў.

Вядзецца следства, якое выявіць усе «вострыя» махінацыі ды вынясе «пякучы» прыгавор.

## Чым пахне штраф?

***Мінск.*** Чым пахне зіма? Снегам, навагодняй ёлкай, дрывамі ў печы, бенгальскімі агнямі... Але для большасці людзей зіма атаясамліваецца менавіта з пахам мандарынаў.

Даведаўшыся пра гэту асаблівасць, грамадзянін Азербайджана вырашыў зарабіць грошай і правярнуў невялікую афёру з гэтым «зімовым» фруктам. Ён купляў мандарыны на аптовым рынку ААТ «Гандлёвы дом «Ждановічы», а потым прадаваў іх там жа ў розніцу. Але – больш чым удвая даражэй! І без аніякіх дакументаў.

Правяраючыя канфіскавалі ў замежнага госця дзве з паловай тоны нелегальных фруктаў. Цяпер зіма ў грамадзяніна Азербайджана будзе асацыявацца з... пахам штрафу, які можа дасягнуць пяцідзесяці базавых велічынь.

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.




*Офіс можа працаваць без шэфа, але не без сакратаркі.*

Джэйн Фонда
(амерыканская
актрыса, мадэль)




## Жыві сваёй галавой

Начальнік:

– Інжынер Іванчыкаў зайшоў да мяне са сваёй думкай, а выйшаў – з маёй.

Інжынер Іванчыкаў:

– Начальнік ёсць начальнік. Думка ягоная, а галава на плячах – мая...

## Па блаце

З кабінета акуліста выходзіць маладая дзяўчына і на хаду зашпільвае гузікі на блузцы. Гэта бачыць пажылая жанчына:

– Відаць, па блаце глядзеў. А мне толькі гаварыў: «Чытайце літары ў слупку...»

## Яйканоскасць павысіць

Максім вяртаецца з кірмашу з чатырма пеўнямі.

– Гасцей чакаеш, Максімка? – пытаюць знаёмыя.

– Не, хачу яйканоскасць курэй павысіць.

## Не ведаеш – не пытай

Жонка:

– Рыгор, гэта праўда, што цябе бачылі ў саўгасным садзе пад яблыняй з аграномкай?

– Пад якою?

– А я не ведаю.

– Дык навошта пытаеш, калі не ведаеш?..

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Гаўурач.

Моравы суддзя.

Мокраскоп.

**Заўважыў**
**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Руслана БОГУША.




– А ў вас ёсць лыжныя чаравікі 55-га памеру?

– Якога?

– 55-га...

– А навошта вам лыжы?

## Прыпеўка

Адшукаць бы мне ўхажора,
Ажаніцца згоднага!
Было ў спёку аж чацвёра,
А ў мароз – ніводнага!

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.

Віншуем!



## З 75-годдзем

**РАДЗЕЧКУ Пятра Іванавіча**, беларускага пісьменніка. Дарэчы, творца адзначае «двайны» юбілей: сорак пяць гадоў таму ён упершыню надрукаваўся на старонках «Вожыка». Пасябраваў з калючым выданнем на ўсё жыццё. Скончыўшы аддзяленне журналістыкі Белдзяржінстытута, Пятро Іванавіч шчыраваў на журналісцкай ніве – у газетах «Дняпровец», «Гомельская праўда», «Советская Белоруссия», узначальваў часопіс «Нефтяник Полесья».

Але не забываўся і на гумар. Выдаў зборнікі эпіграм «Эпиграмма – легче грамма?» і пародый «Поэтический скальпель».



## З 70-годдзем

**НАЙДЗІНА Васіля Іванавіча**, беларускага пісьменніка. Першае гумарыстычнае апавяданне ён надрукаваў у газеце «На страже Балтики» падчас службы ў ваенна-марскім флоце. Пасля службы «прычаліў» да бялыніцкай раённай газеты, «даслужыўся» там да намесніка галоўнага рэдактара. Скончыў Магілёўскі педінстытут, Вышэйшую партыйную школу, а затым трапіў і ў часопіс «Вожык». Працаваў у самым гарачым цэху – у аддзеле фельетонаў. Затым – намеснікам рэдактара «Мінскай праўды», загадчыкам рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, начальнікам рэдакцыйнага ўпраўлення Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Але якія б сур'ёзныя пасады Васіль Іванавіч ні займаў, смяяцца не пераставаў. Умеў бачыць камічнае ў самых звычайных з'явах і ўчынках. Друкаваўся на старонках «Вожыка», іншых рэспубліканскіх выданняў (пад псеўданімам Васіль Чаромхін). Яго творы ішлі нарасхват у артыстаў эстрады. Выйшлі зборнікі гумару «Мужчынскія сакрэты», «Аддаю вам...», «Сустрэнемся ў Барселоне», «Кветка кактуса». Гумарэскі і апавяданні друкаваліся ў калектыўных зборніках.



## З 65-годдзем

**БАГДАНОВІЧ Лёлю Іванаўну** *(сапр. прозвішча Мартыненка)*, беларускую паэтэсу. Скончыла Маладзечанскі палітэхнікум, працавала ў лабараторыях Асіповіцкага камбіната хлебапрадуктаў, завода аўтаагрэгатаў. Пісаць пачала ў сталым узросце, друкавалася на старонках раённых, рэспубліканскіх і літаратурна-мастацкіх газет і часопісаў, а таксама ў калектыўных зборніках. Выйшла кніга вершаў «Зорны кошык».

У «Вожыку» друкуецца даўно. Вершы Л. Багдановіч прасякнуты тонкім, лірычным гумарам, лёгкай іроніяй. Піша і дзіцячыя вершы, у якіх багата жартаў, досціпаў, усмешак.



## З 55-годдзем

**ШАБОВІЧА Міколу** (Мікалая Віктаравіча), беларускага паэта. Скончыў філалагічны факультэт і аспірантуру Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага; выкладае беларускую мову ў сталічным педуніверсітэце. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

Вядомы паэт-песеннік, выдаў некалькі паэтычных зборнікаў.

Гумарыстычныя вершы і пародыі пачаў пісаць яшчэ ў студэнцкія гады, але доўгі час не надаваў гэтаму жанру вялікага значэння. Усур'ёз захапіўся гумарам на пачатку 2000-х. Найбольш праявіў сябе як паэт-парадыст. Пародыі і эпіграмы часта друкуюцца ў «Вожыку», а таксама на старонках рэспубліканскіх часопісаў і газет. Кніга гумару «Хор болей не спявае» стала лепшай кнігай 2008 года ў намінацыі «Сатыра і гумар» і была ўганаравана рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон».

*Шаржы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*




# *ПАРНАСКІЯ НЕ ЖАРТЫ*

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**



## За Пегаса крыўдна

Настрой ураз прапаў
ля касы,
Бо ганарар быў —
з гулькін нос.
Не для сябе,
не на каўбасы,
А за галоднага Пегаса
Прашу:
прыбаўце на авёс!



**Валянцін ШВЕДАЎ**

## Колькасць і якасць

Малады паэт Фядотаў
Клаў радкі, як з кулямёта.
Можа, лепей, як Ігнатаў,
Хоць бы раз пальнуць з гарматы?







Будучыня — гэта тое, насустрач чаму кожны з нас набліжаецца з хуткасцю 60 хвілін у гадзіну.

Клайв Льюіс (англійскі вучоны-філолаг)




Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэмы Паўла САКОВІЧА.

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

• «Паступіла скарга ад грамадзянкі Івановай аб тым, што муж сістэматычна біў па месцы пражывання, чым прычыняў жанчыне пабоі».

*(З пратакола).*

• «Прыцягнуць санаторый «Азёрны» да работы па паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі».

*(З плана мерапрыемстваў).*

• «Некаторыя плады бачны ўжо зараз: ферма атынкавана ў прыгожы салатавы колер».

• «Не ўмеюць наладзіць гэты працэс, дык няхай аддаюць у тыя гаспадаркі, дзе ўмеюць! На сённяшні дзень гэта саўгас імя Чкалава, дзе падзеж жывёлы ўзрос».

• «З вядра палілося малако белай ракой».

• «Так здарылася, што яна нарадзілася ў сям'і настаўнікаў».

*(З допісаў у рэдакцыю).*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Усе ведаюць гару Алімп. Але наўрад ці хто здагадваецца, што яна не знікла дзесьці ў небыцці, а існуе і зараз. Вось толькі спазнала некаторыя змены. На гэту гару пераехалі яшчэ і багі з усёй зямлі. Цяпер яна чымсьці нагадвае звычайны сярэднестатыстычны офіс з вялікай колькасцю работнікаў, з рознымі аддзеламі і пададдзеламі. Нехта займаецца надвор'ем, нехта сочыць за сельскай гаспадаркай, ёсць нават невялікая група багоў, што адказваюць за ўсялякія святы.

Але зараз асаблівую ўвагу мы звернем на аддзел, які назірае за ўжываннем алкаголю на ўсёй зямлі.

...Дыяніс сядзеў у кабінеце і чакаў, калі гадзіннік пакажа роўна дзесяць гадзін раніцы, бо менавіта на гэты час было запланавана пасяджэнне аддзела алкагольнай залежнасці (ААЗ) ААТ «Язычніцтва і К°». Ён пачаў узначальваць аддзел пасля вялікіх перабудоў на гары Алімп і з цягам часу звыкся са сваім шматнацыянальным калектывам.

— Маё прывітанне, начальнік! — першым у кабінеце з'явіўся ружовашчокі Хмель — славянскі бог хмелю і п'янства. — Як адзначыў навагоднія святы?

— Выдатна, — з усмешкай адказаў Дыяніс. — Вырашыў у гэтым годзе павандраваць, абляцеў амаль увесь зямны шар. Паглядзеў, як людзі жывуць...

— А я на радзіме святкаваў. Падабаецца мне там. Вось дзе можа разгуляцца наш аддзел! — Хмель паляскаў сябе па жываце.

Тым часам кабінет начальніка ААЗа напоўніўся прадстаўнікамі разнамаснага калектыву. Каго тут толькі не было! Гаманкія чэрці, вёрткія апівені, у куце сядзеў намеснік Дыяніса Корс — апякун аматараў спіртнога: піва і медавухі, прыйшоў нават Тэпастэкатль — ацтэцкі бог, які не супраць кульнуць некалькі лішніх чарак, і шмат іншых супрацоўнікаў.

— Прывітанне, мае дарагія падначаленыя. Перш-наперш дазвольце павіншаваць з навагоднімі святамі. Спадзяюся, што ў вас атрымалася добра не толькі павесяліцца, але і папрацаваць на карысць нашай установы і менавіта нашага аддзела, — урачыста прамовіў Дыяніс.

— Зразумела, у такія дні ніхто з нас лынды не біў. Трэба было так ап'яніць людзей святочным настроем, каб толькі чаркі мільгацелі, — адразу ж адгукнуўся на гэта Корс. — І ведаеш, я не пакрыўлю душой, калі скажу, што ўсе супрацоўнікі ААЗа з гэтым цудоўна справіліся.

— Я ніколі не сумняваўся ў кампетэнтнасці і працаздольнасці свайго намесніка, — усміхнуўся Дыяніс і прадоўжыў. — Давялося мне святы правесці ў дарозе, бо вельмі хацелася паглядзець, якія спіртныя напоі, колькі і як ужываюць у розных кутках зямлі. Разумею, што да вялікіх краін і ўвага больш пільная, а вось як з ужываннем алкаголю ідуць справы, напрыклад, у Беларусі?

— Робім усё магчымае, каб колькасць людзей, якія любяць хапіць лішку, не змяншалася, але ў апошні час гэта здзяйсняць усё цяжэй, — падаў свой голас Хмель.

— Там узяліся за п'яніц, аматараў выпіць не адну чарку. Робяць усё магчымае, каб іх колькасць скарачалася, але і мы прыкладаем усе намаганні, каб гэтага не адбылося, — пралапатаў маленькі жвавы апівень.

— А я гэтага не ведаў. І што ж у гэтай краіне робяць? — зацікавіўся начальнік ААЗа.

— На самай справе шмат чаго. Узяць хоць бы тое, што штраф за знаходжанне ў нецвярозым стане ў грамадскім месцы даходзіць да пятнаццаці базавых велічынь. А могуць і затрымаць на пятнаццаць сутак, — сказаў тоўсценькі чорт.

— Калі ловяць за рулём пад п'яным чадам, то вадзіцелю даводзіцца плаціць велізарныя штрафы. А калі за год ён пападаецца яшчэ раз, то машыну ўвогуле канфіскоўваюць, даюць штраф, а могуць і ў турму пасадзіць, — адчытаўся яшчэ адзін апівень і сумна ўздыхнуў.

— А на працы беларусы таксама любяць узяць чарку? — з надзеяй спытаўся Дыяніс.

— Любяць, але такіх мала. Напрыклад, возьмем работнікаў заводаў. Калі іх затрымліваюць з перагарам, то не дапускаюць да рабочага месца, адпраўляюць дамоў. Пазбаўляюць розных надбавак, здымаюць прэміі, ставяць прагул... Усё гэта вылятае ў добрую капейку. Многіх такія меры стрымліваюць ад злоўжывання алкаголем, ды, праўда, не ўсіх, — супакоіў начальніка Хмель.

— Трэба адзначыць, што наш аддзел усё ж такі нядрэнна спраўляецца са сваёй задачай. Па статыстыцы на аднаго чалавека ў Беларусі спажываецца каля 12,5 літра гарэлкі

ў год. Для параўнання, у 1970 годзе такі паказчык складаў усяго 6,4 літра, — дадаў Корс.

— Зусім-зусім нядрэнна, — ухвальна зазначыў Дыяніс. — Што яшчэ?

— На жаль, кошт гарэлкі ўвесь час расце. Так, у 2014 годзе акцызы на яе плануюць падняць амаль на трыццаць працэнтаў, — прамовіў яшчэ адзін гаманкі чорт. — Але колькасць людзей, якія стаяць на ўліку ў сувязі са злоўжываннем алкаголем, складае каля 270 тысяч чалавек, пры гэтым 180 тысяч маюць дыягназ «хранічны алкагалізм». Гэта толькі афіцыйная статыстыка, на самай справе іх значна больш.

— Добра, малайцы. Мне падабаецца, як вы працуеце. Будзем працягваць назіраць за гэтай краінай і далей. Я ж адпраўляюся ў камандзіроўку ў Фінляндыю. Пагляджу, як там ідуць справы з ужываннем алкаголю. Праз тыдзень сустрэнемся, а пакуль — працуйце, — усміхнуўся Дыяніс і знік...

Гаманкія чэрці і вёрткія апіўні пачалі шукаць новых ахвяр. І хто ім можа перашкодзіць?..




**На Алімпе пабывала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Прывітанне, братка Вожык! Звяртаюся да цябе са сваёю бядою. Вельмі трывожыць мяне адно пытанне, нават спаць спакойна не магу. Штодня карыстаюся грамадскім транспартам — то тралейбусам, то аўтобусам, то метро. І калі, напрыклад, сёння я набуду ў касе метрапалітэна жэтон, то магу па ім праехаць хоць заўтра, хоць праз год. Чаму ж тады нельга так зрабіць з талонамі на наземны від транспарту? Чаму білет на адну паездку на аўтобус, тралейбус, трамвай «...сапраўдны да ўвядзення новага тарыфу і на працягу 10 дзён дзеяння новага тарыфу»? Чаму талон становіцца «несапраўдным» менавіта за дзесяць дзён? Чаму за яго потым трэба яшчэ «даплачваць»?..

Калі я купляю любы тавар ці паслугу і аплачваю іх, то сам вызначаю, калі імі скарыстацца. Зразумела, калі гэта білет на цягнік, на канцэрт ці ў кіно, там указаны месца, дзень, час, калі я павінен яго выкарыстаць, але ж на талоне такіх адзнак няма!

Некалі наш славуты класік Францішак Багушэвіч роспачна ўсклікнуў: «Чым то дзеіцца на свеце, што не роўна дзеліць Бог?..» Мяне ж цікавіць больш празаічнае пытанне: чаму «не роўна» можна карыстацца талонамі і жэтонамі? Дапамажы, братка Вожык, разабрацца ў гэтым пытанні!..




**Іван ШЫРНЕВІЧ,**
*г. Мінск.*




Вось такую «велізарную» скідку я, госця сталіцы, убачыла ў адной мінскай краме. Добра разумею, што сёння, каб хутка прадаць тавар, неабходна прымяняць розныя маркетынгавыя хады. Адзін з іх — яркі надпіс «Акцыя», які так і прыцягвае ўвагу пакупнікоў. Многія з іх нават не звяртаюць увагу на тое, на колькі паменшыўся кошт тавару. Між тым, лічбы бываюць вельмі смяхотныя...




**Марына КОРБУТ,**
*г. Жыткавічы.*

***Менавіта паводле назвы роднай вёскі Хізаў, што ў Кармянскім раёне, абраў сабе калісьці псеўданім славуты гумарыст, пісьменнік, журналіст Васіль МАЕЎСКІ (1924—2013). Хто ж сёння не знаёмы з творамі Базыля Хізаўца?***

***Васіль Фаміч доўгі час працаваў у «Вожыку», быў адказным сакратаром часопіса. Выдаў у «Бібліятэцы «Вожыка» кнігі сатыры і гумару «На чыстую ваду» (1962), «Багаты ўлоў» (1973), «Кавалі смерці» (1983). З-пад яго пяра выйшлі шматлікія фельетоны, памфлеты, байкі, вершы, мініяцюры...***

***На жаль, да свайго 90-годдзя Васіль Фаміч не дажыў усяго некалькі месяцаў: у верасні мы развіталіся са старэйшым вожыкаўцам, таленавітым пісьменнікам, надзвычай сціплым, мудрым і светлым чалавекам. Але засталіся яго творы, засталіся чытачы, якія не раз звернуцца да напісанага Базылём Хізаўцом...***



**Базыль ХІЗАВЕЦ**

## Вынаходнік



На выстаўцы,
Казалі, дзесь ля Гродні,
Дэманстраваў сваю фурманку
вынаходнік.
І людзі абкружылі экспанат
Ды жартавалі: «Ого, брат!
Як ты раён уславіў наш —
Прыдумаць гэткі экіпаж!..
Хоць і падобны на звычайныя калёсы,
Але празмерна тоўстыя атосы?!
Ды і аглоблі нейкія даўгія!
Навошта ты зрабіў такія?»
«Бо унікальная яна, —
Фурманку гладзячы рукою,
Ківаў паважна майстар галавою. —
Разлічана, каб запрагаць слана...»
Смяюцца людзі і пытаюць:
«А дзе у нас сланоў, скажыце,
запрагаюць?»

## Пра кароў, быкоў ды некаторых кіраўнікоў



Аднойчы у калгасе «Новы час»
Каровы веснавымі днямі
Ўсхадзіліся за бугаямі...
Ці ж гэтак не бывае ў вас?
Бывае!..
І кожны тут па-гаспадарску разважае:
— Карова без ацёла — не жывёла...
Падумаў так і вартаўнік Мікола,
Сумленны, дбайны гаспадар.
І да загадчыка: — Макар!
Каб быў калгас і з малаком,
І з мясам, —
Кароў патрэбна весці да быкоў...
Не трацьма ж дарма часу...
— Яно то так, —
Паскроб патыліцу Макар Тумак. —
Я сам пра гэта добра знаю,
Ды самадумам не магу.
Да Ціта Кузьміча вось падбягу —
Дазвол ягоны атрымаю...
І тым жа часам
Ён быў у старшыні калгаса.
Усё, як трэба, па парадку расказаў.
Кузьміч згаджаўся, галавой ківаў:
— Яно то так... Пара... Пара, вядома, —
А пад канец дадаў. —
Пагавару яшчэ з Пал Палычам з райкома:
Як паглядзіць на гэта ён,
Якую дасць параду...
Зняў трубку ўраз —
І ў тэлефон пачуў адказ:
— Чакаем самі з вобласці каманду!

Пакуль каманду прычакалі —
Каровы ялаўкамі сталі.

*«На чыстую ваду», Мн., 1962 г.*

## ЭПІГРАМЫ

* * *

Ён тэму і сюжэт украў,
І сціфрыў за адно ідэю.
Свайго сабрата абабраў —
І лічыць: вечнае пасеяў.

* * *

Што напісаў — лічыць не будзем:
Мы ведаем, што ты паэт.
Але ж каго ты вывеў ў людзі
За сорак творчых зім і лет?

*«Багаты ўлоў», Мн., 1973 г.*

**Віталь ЖУРАЎСКІ**




**Дзеючыя асобы:**

**Муж.**
**Жонка.**
**Вядучы праграмы «Кватэрнае пытанне».**
**Аператар праграмы «Кватэрнае пытанне».**

Кватэра дырэктара. Пакой з дарагой мэбляй. На сцяне вісіць карціна ў масіўнай раме, на падлозе стаяць высокія вазы. Шмат чаго яшчэ, але ўсё безгустоўнае. Адным словам, кватэра з прэтэнзіяй на раскошу. У пакоі Муж і Жонка.

Званок у дзверы. Заходзяць Вядучы і Аператар з відэакамерай.

**Вядучы** *(бадзёрым голасам)*. Добрай раніцы! Не чакалі? Дарэмна! Да вас завітала здымачная група тэлеперадачы «Кватэрнае пытанне».

**Аператар**. Усміхаемся, усміхаемся!

**Вядучы**. Атрымалі ваш ліст – і адразу вырашылі прыехаць.

**Аператар**. Вам выпаў унікальны шанец – адзін на тысячу!

**Муж** *(здзіўлена)*. Які ліст? Ад каго? Я нікому нічога не пісаў. Хіба толькі жонка?

**Жонка** *(паціскае плячыма)*. Не, я не пісала...

**Вядучы**. Давайце потым высветлім, хто напісаў ліст. А зараз вы – удзельнікі перадачы. У нас мала часу... Трэба дзейнічаць! Хутка прыедуць дызайнеры.

**Жонка**. Ой, як цудоўна! Я вялікая прыхільніца вашай тэлеперадачы. Праўда, нешта вас не памятаю... Няўжо і ў нас будзе новы інтэр'ер?

**Муж** *(амаль крычыць)*. Пачакайце! Я не хачу нічога мяняць у сваёй кватэры. Мне ўсё і так падабаецца!

**Жонка**. Не слухайце яго. *(Махае рукой.)* Пачынайце хутчэй!

**Муж** *(падазрона)*. Значыць, гэта ты іх запрасіла?

**Жонка**. Ды якая розніца! Галоўнае, што да нас завіталі цудоўныя людзі. Сяброўкі з глузду з'едуць ад зайздрасці!

**Вядучы**. Вось і добра. Тады пачнём. *(Пасля невялікай паўзы.)* Я не хацеў адразу казаць, але... Сёння мы здымаем соты выпуск нашай праграмы, і з гэтай нагоды можам поўнасцю пераабсталяваць вашу кватэру!

**Жонка**. Якое шчасце!

**Муж**. Які жах!

**Вядучы**. У вас, дарэчы, багатае абсталяванне. Мы першы раз трапляем у такую кватэру. *(Пераміргваецца з аператарам.)* Так, зараз я звяжуся з нашымі асістэнтамі. Яны ўсё вынесуць з кватэры, каб вызваліць месца і завезці новую мэблю, паласы, карціны і ўсё астатняе, што падкажа наш дызайнер. Гатовы?

**Муж** *(здзіўлена)*. Чакайце! Вы хочаце забраць усю маю мэблю?

**Вядучы**. А па-іншаму нельга. Гэта сотая перадача. Мы ўсё мяняем... Даверцеся нашым прафесіяналам! А лепш – крыху дапамажыце. Давайце зносіць мэблю ўніз, да машыны.

**Муж**. Я не згодны!

**Вядучы**. Выбачайце, але такія ўмовы. *(Разводзіць рукамі.)* Калі вы не хочаце, каб кватэра мела сучасны выгляд і яе паказалі на ўвесь свет, то можаце адмовіцца. У нас мноства іншых заявак.

**Жонка** *(праз слёзы)*. Я так і ведала! Ты заўсёды ўсё сапсуеш!..

**Муж** *(уздыхаючы)*. Добра. Не плач. А куды дзенецца мая маёмасць?

**Вядучы**. Усё вывезуць на спецыяльны склад. Забярэце потым, калі захочаце, у любы час.

**Жонка**. Вось бачыш, мы ў любым выпадку не прагадаем.

**Муж**. Калі так, то я згодны. Але дазвольце даць вам невялікую «ўзнагароду» *(працягвае грошы)*, каб з маёй маёмасцю абыходзіліся як мага далікатней.

**Вядучы** *(хаваючы грошы ў кішэню)*. Не хвалюйцеся, усё будзе добра. Тым больш, што вы самі пра гэта паклапаціліся. Але давайце пачнём выносіць мэблю на вуліцу...

Усе разам пачынаюць выносіць мэблю на вуліцу.
Сцэна паступова пусцее.

**Вядучы** *(з карцінай у масіўнай раме пад пахай)*. Да пабачэння, гаспадары, праз гадзіну я вярнуся з дызайнерам!

Дзверы гучна зачыняюцца.

**Муж** *(праз хвіліну)*. А яны сказалі нам адрас склада?
**Жонка**. Ой, не сказалі...

Заслона.










**На фота:**
*Васіль Семянюк на сядзібе на фоне сваіх карцін з Лявонам Целешам; Васіль Семянюк спявае разам з жонкай Нінай Сцяпанаўнай.*

# Любіць Беларусь і — «Вожык»

**Паважаныя чытачы «Вожыка»!** Дазвольце прадставіць вам майго добрага сябра — Васіля Міхайлавіча Семенюка. Пра гэтага неардынарнага чалавека можна расказваць вельмі доўга, але я пастараюся быць лакацічным.

Васіль нарадзіўся ў працавітай малдаўскай сям'і, у Заходняй Сібіры, куды яго бацька, Міхаіл Орак, быў высланы ў сумна вядомыя часы як «вораг народа». У 1958 годзе бацькоў Васіля рэабілітавалі, і яны вярнуліся на радзіму. Яшчэ ў ссылцы бацька зарэкамендаваў сябе як выдатны эканаміст, а вярнуўшыся ў Малдову, пайшоў працаваць у мясцовы калгас. Дзякуючы і яго ведам і ўменню раней адсталая гаспадарка стала перадавой.

Бацькі запісалі Васіля на прозвішча маці, каб адвесці ад яго непрыемнасці як ад сына «ворага народа». Пасля заканчэння школы хлопец паступіў у тэхнікум сувязі, затым скончыў Львоўскі сельскагаспадарчы інстытут. Праслужыўшы тры гады на флоце, Васіль пазнаёміўся з будучай жонкай — беларускай, ураджэнкай Глушчыны Нінай Сцяпанаўнай Сойкай.

Спачатку жылі ў Малдове (тут нарадзіліся трое сыноў — Дзяніс, Міхаіл і Аляксандр), а дваццаць гадоў таму Семенюкі вырашылі пераехаць у Беларусь — на радзіму Ніны Сцяпанаўны. У вёсцы Баравікі, што на Дзяржыншчыне, пусцілі свае карані. Мясцовы калгас дапамог перасяленцам пабудаваць дом. А яны надалі сваёй сядзібе сапраўдны малдаўскі каларыт...

Дзякуючы жонцы і сваёй прыроднай дапытлівасці Васіль Міхайлавіч засвоіў беларускую мову, пачаў цікавіцца нашай гісторыяй, культурай, далучыўся да народнага гуртка «Баравічанка», у якім разам з жонкай спявае беларускія, малдаўскія, украінскія і рускія песні. Але ён не толькі добра спявае, але і піша — па-беларуску! — вершы і гумарэскі, што друкуюцца ў мясцовай раённай газеце «Узвышша». Неяк Васіль нават прызнаўся мне, што па-беларуску яму пісаць лягчэй, чым па-руску, бо «надта ж сакавітая беларуская мова». Васіль Міхайлавіч яшчэ і няблага малюе: ён стварыў серыю партрэтаў вядомых беларусаў (Еўфрасінні Полацкай, Міколы Гусоўскага, князя Вітаўта, Тадэвуша Касцюшкі) і малдаван (князя Штэфана чэл Марэ, Марыі Біешу, Міхая Эмінэску).

Двойчы на сваёй сядзібе Семенюкі ладзілі святы беларуска-малдаўскай дружбы, на якіх прысутнічалі пасол Малдовы ў Беларусі спадар Георгій Хіаарэ, былы консул Малдовы Георгій Солтан, вакальна-харэаграфічны гурт «Плай»... Гучалі нацыянальныя песні, госці з запалам танцавалі і беларускую польку, і малдавяняску.

Думаю, што тонкая і рамантычная душа малдаваніна Васіля Семенюка пацягнулася да творчасці таму, што тут, на беларускай зямлі, яму і яго сям'і жывецца добра і ўтульна. Дарэчы, вінаград на яго сядзібе выспявае такі смачны і салодкі, як у самой Малдове!.. Ну, а сёння В. Семянюк «пачастуе» вожыкаўскіх чытачоў сваёй гумарэскай.

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Васіль СЕМЯНЮК**




Лёнік доўгі час працаваў даглядчыкам на ферме і, як гэта часта здараецца, «пасябраваў» з гарэлкай. Загадчык фермы цярпеў-цярпеў Лёнікава «захапленне», але ўрэшце не вытрымаў – адправіў выпівоху дахаты «добра падумаць».

Лёнік «думаў» амаль два тыдні. А потым на яго падворку аднекуль з'явілася чорнае кацянё з белай плямкай на пысе.

– Назавём яго Плямкай, – вырашыў гаспадар. – Вырасце – будзе пацукоў на ферме лавіць.

Але з цягам часу Лёнік неўзлюбіў ката, бо той заўсёды гучна мяўкаў, калі гаспадар спаў пасля «сустрэчы» са шваграм Грышкам, якога таксама выгналі з працы. Аднойчы Плямка нават зрабіў сваю «мокрую справу» ў чаравік Лёніка.

Канчаткова сапсаваліся сяброўскія адносіны ката і чалавека, калі Плямка скінуў на падлогу валёнак, што стаяў на печы. Адтуль вывалілася недапітая бутэлька гарэлкі і, канечне ж, разбілася. Гэтага выпівоха даравацъ кату не мог і запусціў у яго валёнкам. «Снарад» чамусьці паляцеў у іншым накірунку, зачапіў лямпачку, якая адразу ж пстрыкнула і рассыпалася асколкамі на падлогу, а пасля трапіў у люстэрка, якое таксама разбілася. У гэты момант не на жарт спалоханы Плямка памкнуўся ўзлезці на камоду, але не ўтрымаўся і грымнуўся адтуль разам з тэлефонам, што разляцеўся на часткі.

– Ах ты, чарцянё хвастатае! – не стрымаўся Лёнік і кінуўся лавіць кацяня. Ён і схапіў бы шкадлівуца, калі б не ўдарыўся галавой аб край стала.

– Усё роўна злаўлю! – закрычаў Лёнік, трымаючыся за велізарны гузак на галаве.

Кацяня ж у гэты час ускочыла ў печ, схавалася ў самы далёкі куток. Лёнік палез следам, і ў яго нават атрымалася схапіць Плямку за шкірку. Але той не збіраўся здавацца – цопнуў гаспадара за палец ды яшчэ і далонь кіпцюрамі падрапаў.

У гэты момант да Лёніка завітаў швагра Грышка:

– Ты што там у печы робіш?

– Ды ката лаўлю, глядзі, як гэты чорны д'ябал мяне параніў, – сказаў Лёнік і паказаў руку.

– Нічога ты не ўмееш! Глядзі, як трэба! – сказаў Грышка і палез па ката.

Але Плямка моцна падрапаў і Грышку, а затым, выбраўшы зручны момант, даў драпака на вуліцу.

Выскачыўшы за ім следам, сябры заўважылі мясцовую фельчарку Ларыску.

– Што здарылася, дзядзькі?

– Бачыш, што з намі зрабіў гэты чорны д'ябал! – Лёнік з Грышкам паказалі свае пакусаныя ды падрапаныя рукі.

– Ды вам абодвум трэба ў бальніцу, – сур'ёзна заўважыла фельчарка. – Хто ведае, можа, кот шалёны?

Пасля гэтых слоў сябры адразу працверазелі і пабеглі ў бальніцу. Там ім зрабілі неабходныя прышчэпкі і папярэдзілі, каб на працягу паўгода не ўжывалі ніякага алкаголю. Канечне, апошняя акалічнасць сапсавала шваграм настрой, але нічога не зробіш: нельга – значыць нельга.

Пра тое, што Лёнік і Грышка завязалі, хутка даведалася ўся вёска, у тым ліку і загадчык фермы. На наступны дзень швагры ўжо былі на працы і добрасумленна выконвалі свае абавязкі. Загадчык фермы не мог на іх нарадавацца.

А неўзабаве Лёнік паміраўся з Плямкай. На атрыманы аванс купіў яму вялізную ўпакоўку «Віскасу».

– Прабач мне, Плямка. Каб не ты, бадзяўся б яшчэ невядома колькі. А дзякуючы табе і з выпіўкай завязаў, і на працу ўладкаваўся.

Кот задаволена замуркаў, нібы разумеючы, пра што кажа гаспадар...






## ПРЫМАК І КАХАННЯ СМАК

Беднага Давыдку жонка зневажае,
Кожны дзень па хаце чапялой ганяе.
А сама, гультайка, спіць аж да абеду,
Мужа не пускае нават да суседа.

Апетыт у жонкі – што ні гавары,
З'есць усё, што будзе, колькі ні звары!
А сама на ложку да цямна ляжыць
Злосная, на мужа з-пад ілба глядзіць.

Важыць жа Малання больш за сем пудоў.
З ёй прымак гаруе дваццаць пяць гадоў.
Ля пліты кухарыць – беляшы, рагу...
«Што за лёс гаротны? Болей не магу!»

Не стрываў Давыдка, закрычаў, што хворы,
Ад гультайкі-жонкі збег у санаторый.
Там сустрэў дзяўчыну, моцна закахаўся,
Са сваёй Маланняй тут жа развітаўся.

Так знайшоў Давыдка лекі для душы,
З жонкай маладою стаў шчасліва жыць.
Нават і не думаў, не ўяўляў прымак,
Што каханне можа мець салодкі смак.

**Алена ШЧАРБАК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СЛІВЫ.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## Няўдалыя залёты



Ідзе па вуліцы «чувак»
Ды сам з сабою размаўляе.
Пад вокам свеціцца сіняк,
Малінай спелай адлівае.

На ім прымятае адзенне,
Даўно не чышчаны абутак.
На твары – лёгкае здзіўленне
І, сіняком прыкрыты, смутак.

Хадзіў ён да былой сяброўкі,
Каб абагрэла, накарміла
І каб балючую галоўку
Бутэлькай піва палячыла.

Ды толькі выйшла незадача:
Жаніх прыпёрся да сяброўкі.
Паколькі нораў быў гарачы –
Схапіўся ўраз за манціроўку.

Застаўся «чувачок» без піва,
Гарачай кашы не пад'еў...
А да ўсяго – пад вокам крыва
Сіняк малінавы гарэў.

Ох, злосны ён ідзе дадому:
Жаночай нестае пяшчоты...
Праз тыдзень сыдзе гематома –
Пачнуцца новыя залёты.



**Валянціна БАБКО,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*

**Галіна СУТУЛА**

## «Залатая» саланіна

*Быль*

Камерцыя – справа нялёгкая: і начэй не даспіш, і нервы сапсуеш, і страху нацерпішся.

Пятрок за доўгія гады прызвычаіўся да ўсяго. І якія б перашкоды ні з'яўляліся на шляху, ён настойліва кожныя выхадныя, загрузіўшы багажнік аўтамабіля саланінай, адпраўляўся ў Расію.

І той раз, перахрысціўшыся, як заўсёды, пакінуў роднае Глыбокае. Кіламетры беглі неўпрыкмет, неўзабаве мужчына пераехаў мяжу. Задумаўшыся, ён нават не заўважыў, як націснуў на педаль газу. Толькі ўбачыўшы даішніка з радарам, зірнуў на спідометр, але было позна...

Пачуўшы пра штраф, Пятрок цяжка ўздыхнуў і палез у кішэнь па кашалёк. У гэты час даішнік, абышоўшы машыну, унюхаў саланіну. Беларус без слоў зразумеў суседа-славяніна і, схаваўшы кашалёк, адчыніў багажнік. Даішнік укінуў пальчаткі ў салон Петраковай машыны і пачаў паласаваць кавалкі. Напакаваўшы торбу кілаграмаў на дзесяць, махнуў рукой: «Едзь, маўляў». Петрака праз хвіліну і след прастыў. У дарозе ён падлічыў, што штраф яму абышоўся б танней, бо на сале страціў каля шасцідзесяці долараў.

Толькі прыехаўшы на рынак, мужчына ўбачыў на заднім сядзенні машыны пальчаткі даішніка. Калі ўзяў іх, пад ногі зваліліся складзеныя ў некалькі столак паперкі. Яны аказаліся трыма стадоларавымі купюрамі, якія, відаць, «зарабіў» даішнік падчас дзяжурства.

Жадання вярнуць пальчаткі ахоўніку парадку ў Петрака чамусьці не з'явілася. На душы стала сонечна ад думкі, з якім «апетытам» есць даішнік яго «залатую» саланіну.

*г. Глыбокае.*



Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.

## ПРЫПЕЎКІ

Я наяве, а не ў сне
Усё кахалася ў аўсе.
Час прайшоў не марна:
Стала я цяжарнай!

* * *

– Дым з хлява ідзе, Лявон!
Мусіць, гоніш самагон?
– Не расказвай, братка, казкі:
Курыць то мая Падласка!

* * *

Ой, бабуля, ой, блудніца,
Дзеда напужала.
Падняла сваю спадніцу –
Ножку паказала.

* * *

Ой, бяда маёй галоўцы!
Дзе ж тут думаць пра свіней,
Калі ў новенькай ватоўцы
Мне падміргвае Мацвей.

**Праспявала Яніна ЖАБКО,**
*г. Мінск.*

## Бывае і так...

☺ Пасеяў грэчку – скасіў лебяду.

☺ Варыў суп – еў кашу.



☺ Жаў жыта – малаціў ячмень.

☺ Цыраваў сарочку – парваў штаны.



☺ Прадаў гусей – купіў курэй.

☺ Пахваліў суседку – пакрыўдзіўся сусед.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

**Алесь ВІЛЕЙСКІ**




...Зала клявала носам, а сёй-той і добра задрамаў пад нуднае бубуканне лектара, які хваліў стабільны калгасны дабрабыт на неабсяжных прасторах савецкай дзяржавы. Калі ён скончыў сваё выступленне і папрасіў задаваць пытанні, дзед Пятрусь адразу падняў руку:

– Скажыце, а што такое фаргелет?

Лектар на хвіліну задумаўся, а потым упэўнена растлумачыў:

– Гэта новае ўгнаенне, якое выкарыстоўваюць на доследных палях. Фаргелет падняў ураджайнасць пшаніцы ў тры разы, так што неўзабаве ён будзе шырока прымяняцца ў сельскай гаспадарцы.

Дзед Пятрусь хітра ўсміхнуўся і падаўся з клуба.

Праз некаторы час калгаснікаў зноў добраахвотна-прымусова сабралі на чарговую лекцыю, на гэты раз прысвечаную сацыяльна-эканамічнаму развіццю краіны. Выступоўца гадзіны дзве распавядаў, як добра жывуць савецкія людзі: у іх жа ўсё ёсць – ад нафты да ўранавай руды. Нарэшце, зірнуўшы на свой наручны гадзіннік, ён сказаў:

– У мяне ўсё. Задавайце, калі ласка, пытанні.

Дзед Пятрусь кашлянуў у кулак і запытаў:

– Скажыце, а што такое фаргелет?

Лектар спачатку сумеўся, але хутка знайшоў адказ:

– Гэта новы від міжнародных адносін, калі моцная дзяржава аказвае бясплатную дапамогу слабаразвітай краіне...

Тут ужо заўсміхалася ўся зала.

А праз тыдзень перад калгаснікамі выступаў новы дакладчык – кандыдат медыцынскіх навук. У сваёй натхнёнай прамове ён расказаў, што з паляпшэннем узроўню жыцця савецкіх грамадзян хваробы адступаюць, што недалёка ўжо той дзень, калі мы назаўжды пазбавімся ад сухотаў, язвы, рака...

Напрыканцы даклада лектар традыцыйна пацікавіўся, ці ёсць пытанні. Дзед Пятрусь зноў не ўстрымаўся:

– Скажыце, а што такое фаргелет?

Слухачы прытаіліся. Кандыдат меднавук не разгубіўся:

– Фаргелет, таварышы, – гэта новы сродак супраць цяжарнасці. Аднак нам ён не патрэбны: мы зацікаўлены, каб нараджальнасць у краіне павышалася.

Дружны гамерычны рогат заглушыў апошнія словы лектара...

Старшыня калгаса хуценька пасадзіў эскулапа ў «Волгу» і кінуўся да дзеда Петруся, які ад смеху аж за жывот трымаўся:

– Ну, стары разбойнік, ты сам хоць ведаеш, што гэтае слова азначае?

– Вечарам, калі я іду вартаваць ферму, то праходжу каля пошты, дзе на дзвярах напісана: «Тэлеграф». А раніцай, калі вяртаюся з працы дахаты, чытаю наадварот: «Фаргелет».

Строгасць старшыні як рукой зняло, і ён залівіста засмяяўся разам з дзедам Петрусём.



*г. Мінск.*




Малюнак Руслана БОГУША.




*Мужчына – гэта істота, здольная тры гадзіны запар чакаць паклёўкі і няздольная пачакаць пятнаццаць хвілін, пакуль жонка апранецца.*

Роберт Орбен
(амерыканскі фокуснік, гумарыст)

# Каб я жоначку меў…
























Малюнкі Алега ПАПОВА.






**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Чыкі-чык-чырыкі…

Чыкі-чыкі, чык-чырыкі,
Мне купіце чаравікі,
Каб не мерзлі лапкі,
А яшчэ – і шапку.
Парасон хачу вялікі,
Чыкі-чыкі, чык-чырыкі.
Добра будзе ратавацца –
Ад дажджу пад ім хавацца.

*г. Барысаў.*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## Снег, снег, снег

Снег, снег, снег,
Як скрозь сіта сее.
Снег, снег, снег,
Сынку, заўважай!
Снег, снег, снег,
Сто сумётаў снегу,
Снег, снег, снег –
Свецiць ураджай.
Снег, снег, снег,
Суткамі цярусіць.
Снег, снег, снег,
Разаслаў абрус.
Снег, снег, снег,
Салютуе. Мусіць,
Снег, снег, снег,
Любіць Беларусь!



**Павел САКОВІЧ**

## Чаму ласі не ходзяць па дарозе

Ласі дарогамі не ходзяць.
Напэўна, людзі іх трывожаць.
Чаму ж тады яны, скажыце,
Не ходзяць нават па сцяжынцы?

Навошта сцежкі ім, дарогі?
У іх – разгалістыя рогі.
Ну, як рагатым размінуцца,
Калі на сцежцы сутыкнуцца?

## ЗАГАДКІ

Не звер, а касматы, не конь, а з вушамі.

*(Шапка-вушанка.)*

З хаты ў хату водзіць, а сама не заходзіць.

*(Дарога.)*

Белы, а не цукар, без ног, а ідзе.

*(Снег.)*

Не брэша, не кусае, а ў хату не пускае.

*(Замок.)*

Стукае, грукае, а нідзе не відаць.

*(Гром.)*




Міні-комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Экзамен па англійскай мове.

— Take a ticket, please. What is your number?

— Намбэ... гэта... нам бы чацвёрачку...



З сачынення:

«Мы з Паўлікам блізняты! Толькі імя маё чамусьці Грыша...»



З сачынення:

«Вось вырасту, зараблю грошай, куплю сабе вя-я-я-лікае марожанае і буду яго цэлы год лізаць!..»

— Так, канечне! — хорам закрычаў увесь клас.

— Добра. А другое — гэта праўдзівасць. Перад дзвярамі няма ніякага дыванка!



У школе раздалі табелі з адзнакамі за год. Хлопчык вяртаецца дадому і, зазірнуўшы бацьку ў вочы, кажа:

— Галоўнае, што мы ўсе здаровыя, праўда, тата?



У школе:

— Сёння ў нас будзе кантрольная.

— А калькулятарам карыстацца можна?

— Так, можна.

— А транспарцірам?

— Транспарцірам таксама можна. Запісвайце тэму кантрольнай: «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага».

**_Знайдзі словы, што схаваліся ў квадраце. Лінія праводзіцца ў любы бок па прамой ці пад прамым вуглом, але не можа перасякаць іншыя лініі._**


Вожык


Партфель


Рыбак


Вадалаз


Арбалет


Наручнікі


Пагон


Шкілет


Мастак


Кок

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | А | Л | Е | Т | П | В | О | Ж | Ы |
| Р | Б | Г | Р | А | А | Р | Т | В | К |
| Н | А | Р | У | Б | Л | І | Ф | А | Д |
| Г | О | Н | Ч | Н | Ь | Л | Е | Т | А |
| А | П | Е | В | І | Б | А | К | А | Л |
| Т | Э | Л | І | К | А | Р | С | І | А |
| Р | Р | А | З | І | Б | А | Н | М | З |
| У | А | К | Ш | К | Р | Ы | Б | А | С |
| С | К | А | Н | І | Т | К | А | К | Т |
| А | Л | Л | У | Л | Е | О | К | К | А |


Барабан


Граблі


Таксі


Калун


Русалка


Тэлевізар

Склаў Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Сяброўка маміна Анэта
Садзіцца хоча на дыету.
Уцякай хутчэй, дыета:
Вельмі ж мажная кабета!




* * *

Ці было такое дзе,
Каб пісалі па вадзе?
Віламі, а не алоўкам —
Тут выводзіць трэба лоўка!




* * *

У маёй знаёмай Вікі
Есці просяць чаравікі.
Віка, добрая душа,
Наліла ім гуляша.



* * *

У Сцяпанавай сястрычкі
Зніклі ўчора рукавічкі.
Іх яна дарма шукала —
Мілка языком злізала.

**Яўген ЖАМОЙДЗІН,**
*Мінскі раён,*
*г. п. Мачулішчы.*

Малюнкі Карыны ПАЦКО.






**Ганад ЧАРКАЗЯН**




Палянку гожую чужую
Аднойчы высачыў камар.
А там ад ранку чмель шчыруе,
Збірае залаты нектар.

Але сумеўся госць нязваны,
Як чмель сярдзіта прадудзеў:
– Вось гэта ўсё – мая паляна,
Ляці сабе, куды ляцеў!..

Куды ляцеў ён – невядома,
Куды ляцяць без мэты ўсе.
Калі ж зусім змарыла стома,
На дрэва нейкае прысеў.

Дрыжыць камар, як лісцік кволы.
Хто дапаможа бедаку?
А ўнізе, глянуў:
Нехта голы
Шчасліва дрэмле ў гамаку.

Усё, як чмель той напрарочыў.
Камар уніз шчасліва скочыў.
Які ж спакуслівы глыток!..
І піў ён кроў,
І піў дасхочу,
Аж трэсся хмельны хабаток.

Таго не знаў камар-прыблуда,
Што ён і сам адна з ахвяр.
За зло, што дзеецца усюды,
Адказваць мусіць і камар.

Хто п'е чужое – траціць меру,
На целе ён ці ля стала.
І піў, і лопнуў, ненажэра,
І кроў паляну заліла.

Прачнуўся і глядзеў спрасоння
На ўсё нязлосны гаспадар:
Учора так было і сёння –
Карае сам сябе камар...

Каб чуў ён голас чалавечы:
– Бяры сваё, што сам здабыў.
Калі сваё бярэш на плечы,
Ты панясеш цяжар любы...

Разумны чмель глядзеў здалёку
І спачуваў ён камару,
Што так звінеў,
Лятаў высока,
Але загінуў не ў пару.

*Пераклад з курдскай Казіміра КАМЕЙШЫ.*









Малюнкі Анатоля ГАРМАЗЫ.



***Пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Іванавіч Лявіцкі) (1868—1922) — адзін з пачынальнікаў беларускай прозы. Нават самыя першыя яго творы — апавяданні «Важная фіга», «Заморскі звер», «Пазыка» — узбагачалі нашу літаратуру жанрава. Пісьменнік смела карыстаўся сродкамі сатырычнага выкрыцця адмоўных з'яў у жыцці.***

***Адзначаючы на пачатку студзеня 145-гадовы юбілей з дня нараджэння Ядвігіна Ш., прыгадаем і ягоныя творы.***

**ЯДВІГІН Ш.**

# Важная фіга

*(Ахвярую добрым свякроўкам)*

— А што, каб цябе паляруш, мая ты кветачка, каб табе дух заняло, мая ты ягадка, — усціхла, нябось, — спакарнела! Не шкодзе, не шкодзе!! Але што я бяды набралася, пакуль гэтага, мае вы кветачкі, дабілася; што я стыду, злосці і слёз глынула?! Матачцы боскай, мае вы ягадкі, іх ахвяровываю.

Бо як жа ж! Падумайце самі: гэтакае, шануючы бога і людзей, шчанё, што яшчэ і малако на губах не абсохла, — будзе пад мой нос — свякровін нос, — мае вы кветачкі, фігу падтыкаць?!. Вось паслухайце, мае вы ягадкі.

Спачатку, — як толькі Агатка ўзяла ўсю хатнюю гаспадарку ў свае лапы, — ішло і ціха, і складна — от ведама як спачатку. Раніцай, бывала, прыставіўшы абед, пабяжыць каровы падаіць, свінням замяшаць, ну і падойдзеш да прыпечка па-даўнейшаму, мае вы кветачкі, гаршкі паправіць, пераставіць, у каторы солі падсыпеш, у каторы вадзіцы падліеш... Прыбяжыць Агата, угледзіць і зараз, мае вы ягадкі, на мяне накінецца: «Нашто, мамка, чапаеш? Нашто груцу перасаліла? Нашто квас, як памыі, вадой развяла?» І пойдзе, і пойдзе сыпаць! А то, часам, сынок як выйдзе з сахой ды замарудзіць на палудзень, так зараз яна, Агата, значыцца, мае вы ягадкі, тыц у печ — скварку выцягне, стравы чабохне ў міску. «На, — кажа, — мамка, з'еш крыху, старая ты, можа млосна зрабіцца... а я паляту з спарышамі к Сымону на поле». — «Што ж ты, — кажу, — нявестачка, каб цябе трасца, мая ты ягадка, такая ўважная на маю старасць, а там Сымонка спрацаваны, галодны, як воўк, чакае — абыдуся без тваёй ласкі», — ды бразь ёй міску пад нос!.. Праўда, першыя дні, бывала, нічога не адкажа і пабяжыць; але іншым разам здарылася ізноў прыпазніцца Сымону на полі... Наліўшы спарышы і не гледзячы, не чакаючы ўжо на мяне, паляціць... Ну і тыцкнула я ёй раз фігу пад нос адну-аднюсенькую, а яна, мае вы ягадкі, мах па фізе; і то жалься божа, якая там была фіга. Я ёй тады другую, трэцюю, аж і яна мне тыц пад нос фігу, ды якую?! Махнула я па фізе дый не папала, а што махне яна, то якраз урэжа. Як пайшлі гэта мы частавацца, мае вы ягадкі, фігамі, дык аж пакуль не вярнуўся Сымонка і не расцягнуў нас...

Не змагла сцярпець я гэтай паняверкі, дай, думаю, схаджу да земскага — пажалюся...

«Ну, — кажа, выслухаўшы мяне, земскі, — во што я табе скажу: па судах цягацца табе няма чаго, дый грошы трэба, а я і так раду дам: не лезь да печы, а лепш на печ, сядзі ды прадзі і не перашкаджай працаваць маладым...». — «Добра, — кажу, — паночку, мая ягадка, хай і так будзе, але толькі як жа будзе з гэтымі фігамі, я па яе не пападу: баба вёрткая, — а яна мае фігі таўчэ ды таўчэ?» — «Добра, — падумаўшы, кажа земскі, — і на гэта дам раду: давай руку!»

Узяў гэта ён маю правую руку, мае вы кветачкі, круціў, круціў мае кастлявыя пальцы, думала, што ўжо хіба паломе іх, але сагнуў неяк такі ў кулак і пытае:

«Што гэта?»

Калі гляну: ягадкі мае, фіга! Ды і то не адна, а дзве велізарныя фігі з аднаго кулака злажыў, даліпан, фігі. Я і кажу: «Фігі, панок, мая ты кветачка».

«Ну от і добра, — кажа. — Нясі ж ты гэтыя фігі дадому і падаткні нявестцы пад нос: скажы, што земскі прыслаў. Няхай пасмее ўдарыць па фігах земскага? Але помні сабе, што толькі па гэтых фігах калі ўдара, то падавай у суд, а як раскруціш пальцы ды сама зложыш, то няхай сабе ізноў таўчэ табе пальцы, — я бараніць не буду».

Пайшла я. Іду, паглядаю ўсё на рукі; як гляну на фігі земскага, гэткага-то пана, аж уцеха, мае вы ягадкі, бярэ... Уходжу — бачу: нявестка каля печы круціцца, Сымонка хамут абшывае, дзве кумы сядзяць — гукаюць. Я барздзжэй да нявесткі: Так і так, — кажу, — земскі табе, мая ты ягадка, гасцінец прыслаў — фічкі са дзве! Папрабуй жа ўдарыць па земскага фізе?!. Дый тыц ёй кулак пад нос... Праўда, збялела яна як палатно, аж губы задрыжалі, але ўдарыць — не ўдарыла. Я і давай ёй тыкаць раз-пораз. Падбег Сымонка бараніць, — я і яму тыц, умяшаліся кумы — наце і вам! Папрабуйце, кажу, зняважыць земскага фігу! Кумы драпанулі, разбрахалі па вёсцы, — пачаў збірацца народ і з пашанасцю аглядаць важныя фігі, я і іх пачаставала. Іншы зарагатаў, іншы абідзіўся, але крануць не пасмелі!

Толькі, мае вы кветачкі, нядоўга я цешылася, частуючы як мага суседзяў, зачапілася, каб яго агонь, за тапчан — грымнула, і фігі раскруціліся!

З таго часу не лезу я ў вочы маладым, але і нявестка баіцца мяне, як агня, — каб ізноў не пайшла да земскага, мае вы ягадкі, па фігі.

*«Выбраныя творы», Мн., 1976 г.*

*Сёлета ў студзені спаўняецца 115 гадоў дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Міхася (Міхаіла Ціханавіча) ЛЫНЬКОВА (1899—1975). І творчая, і працоўная біяграфіі Міхаіла Ціханавіча вельмі насычаныя. Выйшлі шматлікія кнігі апавяданняў, нарысаў, аповесцей, раманаў.*

*Па натуры сваёй М. Лынькоў быў гумарыстам, чалавекам надзвычай добразычлівым і вясёлым. І гэта добра адчуваецца ў яго творах для дзяцей, а таксама ў сатырычных замалёўках і артыкулах перыяду Вялікай Айчыннай вайны.*

*Перачытаем урывак з аповесці «Міколка-паравоз» (1937), якая прынесла пісьменніку найбольшую славу і на якой вырасла не адно пакаленне дзяцей, ды ўсміхнёмся.*

**Міхась ЛЫНЬКОЎ**

# «Прыгоды Міколкі з дзедам Астапам»

...Выйшла з дзедам і другая штука, калі аднаго разу рыбу лавілі. Праўда, і Міколка з бацькам набраліся тады здаровага перапуду, але больш за ўсё дасталося дзеду. Неяк у вольны дзень пайшлі рыбу лавіць на раку... Рыбаловы ў вадзе плёскаюцца, а дзед на беразе сядзіць ды парады дае.

– Адтуль, адтуль заходзь – там самая рыба ходзіць! – радзіць дзед ды піпку смыголіць.

Спачатку Міколка з бацькам з таптухай цялёпкаліся, а потым узяліся рукамі плотак лавіць паміж карчоў. І намацаў тут бацька няйначай, як ментуза. Вядома, мянтуз слізкі, цяжка яго рукамі ўзяць. Бацька Міколку на дапамогу клікнуў. Ловяць рукамі, між карчоў шаруюць.

– Ну і вялікі ж, няйначай хунтаў на шэсць! – кажа Міколка, стараючыся спрытней падчапіць неўваротную рыбіну...

– За зябры яго, за зябры, гада! – падае дзед параду.

– Ну, вядома, не за хвост... – адказвае бацька і яшчэ спрытней бярэцца за ментуза. Але нічога не выходзіць. А дзеда тут ужо і нясцерп бярэ, дужа ж тым ментузом зацікавіўся. Трэба-такі сказаць, што дзед падабаў рыбу, ды яшчэ такую, як смажаны мянтуз.

– Рыба, яна, браце, заўсёды рыбіна! Гэта табе не ракі, з якіх ні смаку, ні наедку, а адна толькі прыкрасць ды барадзе маёй непакой...

І вось аж усхадзіўся на беразе дзед, забегаў. І піпка ў яго даўно патухла, знае толькі – рукамі махае ды нашых рыбаловаў ушчувае:

– Яшчэ рыбаловы! Ім рыбу! Вам толькі прусоў ганяць!

– Сам зладві, – усердаваў тут не на жарты бацька.

– І злаўлю!

– А паспрабуй жа.

– І што ты думаеш? І паспрабую. Ён у мяне не выслізнецца, як у вас, у няўмекаў...

І дзед самым рашучым чынам скінуў адзежу і, павесіўшы яе на плечы, – баяўся пакідаць на беразе, каб не скралі пастушкі, – смела рушыў у ваду.

– Дзе ён тут? Падавайце яго мне, я з ім разам расправлюся, з супастатам!

Аж Міколка падзівіўся з дзеда, з яго незвычайнай спрытнасці – дзед так захадзіўся каля карча, аж вада кіпела наўкола. І вось урэшце дзед урачыста крыкнуў:

– Ага! Папаўся-такі, не мінуў маіх рук! А вы – няўмекі!

Міколку з бацькам засталося толькі пераглянуцца між сабой. Ну і дзед, не чакалі такога спрыту! Магчыма, што дзеду з яго кастлявымі пальцамі было зручней упраўляцца з ментузом, таму хутчэй і падчапіў яго. Дзед цягнуў ментуза надзвычай марудна. Мо проста з-за асцярожнасці, каб не ўпусціць часам рыбіну, а мо знарок хацеў надалей расцягнуць такую ўрачыстую хвіліну.

Вось пад вадой паказалася ўжо нешта жывое. Міколка хацеў ужо крыкнуць, што няйначай гэты мянтуз будзе фунтаў з пятнаццаць, бо такі ж вялікі. Але тут падзеі прынялі зусім нечаканы зварот. Толькі гэта дзед, урачыста гледзячы на Міколку, вывалак свайго ментуза з вады, як глянулі на яго Міколкаў бацька ды і сам Міколка і як бачыш сiганулі на бераг. Толькі пырскі паляцелі па вадзе. Аж збялеў Міколка, засопся. Выскачыў на бераг, азірнуўся. Стаіць дзед і на іх глядзіць, дзівуецца, не разумеючы, чаго яны драпака далі. Тут як закрычыць Міколка не сваім голасам:

– Ратуйцеся, дзеду, пакуль не позна!

Зірнуў тады дзед на свайго ментуза – і ледзь не самлеў. Аж прысеў у вадзе, умачыўшы сарочку. А тады як кіне ментуза падалей у рэчку ды як дасць драпака на бераг, аж адзенне згубіў, спатыкнуўшыся аб корч...

І калі аддыхаліся потым усе ад перапуду, дзед пачаў грозны наступ на Міколку і на яго бацьку:

– І якое ліха панесла вас вужаку лавіць?

– А цябе якое?

Змоўчаў дзед на якую хвіліну. Гэтакі ж канфуз выйшаў – усё ішло так добра і гладка, і на табе, заместа ментуза гада злавілі. А яшчэ парады даваў, а яшчэ выхваляўся. Пасля гэтага здарэння дзед канчаткова рашыў ніколі болей у ваду не лазіць. І калі траплялася часамі Міколку з бацькам лавіць якую рыбіну ў рацэ, дзед асцерагаўся нават падыходзіць блізка да іх, калі яны выцягвалі на бераг таптуху альбо брэдзень. І толькі здалёк пытаў:

– Ну што, шчупак ці акунь?

– А ты падыдзі, сам пaглядзі!

– Хопіць ужо, нагледзеўся...

Прызнацца, і Міколка з бацькам не адважваліся болей мацаць ментузоў і, да вялікай радасці дзеда, баяліся лазіць і па ракавых пячорах.

– Яшчэ, чаго добрага, і адтуль выцягнеш трасцу якую паласатую...

А дзед толькі гаварыў:

– Цяпер-то я магу спаць спакойна!..

*«Міколка-паравоз», Мн., 1977 г.*

# Прыслоўе пра здароўе






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.






Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Руслана БОГУША.




*Зараз на шматлікіх форумах у інтэрнэце часта можна заўважыць паведамленні, у якіх людзі просяць нейкай парады, дапамогі. Тэмы закранаюцца самыя разнастайныя. Пытаюцца, напрыклад, як лепш прыгатаваць боршч, якую краму выбраць для набыцця новай сукенкі і чым выводзіць плямы ад чырвонага віна. Дасведчаныя «адказчыкі» шчодра дзеляцца ўласным вопытам. Здараюцца часам і вось такія «дыялогі».*

**Maruse4ka**

Усім прывітанне! Зусім нядаўна бацькі падарылі мне на Дзень нараджэння дарагі люстэркавы фотаапарат Canon 600D. За невялікі прамежак часу я зрабіла неверагодную колькасць фотаздымкаў. Фатаграфавала ўсё, што траплялася на вочы: мэблю, кветкі, неба, сябе...

Паступова ў мяне з'явілася думка: ці не сумясціць мне прыемнае з карысным? А менавіта, стаць вясельным фатографам. Грошы вялікія, а праца — зусім-зусім нескладаная. Тым больш, што ў мяне ёсць неблагі вопыт у гэтай справе: у дзяцінстве здымала на старэнькі бацькоўскі «Зеніт», потым перайшла на камеру тэлефона.

Зараз прыкідваю, што для гэтай справы трэба. Аб'ектыў пакуль што ёсць толькі самы звычайны, які ішоў у камплекце з фотаапаратам. Разумею, што неабходныя і іншыя прылады, але грошай на іх пакуль што няма. Патрэбна яшчэ абавязкова знешняя ўспышка. Парэкамендуйце якую-небудзь добрую і недарагую. Дадатковую карту памяці і акумулятар куплю. Што яшчэ? Можа, які-небудзь штатыў? Але, мяркую, без яго можна і абысціся. Чакаю вашых парад.

**Marat123**

Нядаўна на Дзень нараджэння сябры прыкалоліся і падарылі мне сапраўдны медыцынскі скальпель. За пару тыдняў я спаласаваў усю скураную канапу і лічу за лепшае абыходзіць бокам хатніх гадаванцаў. І ўсё часцей думаю: ці не сумясціць мне прыемнае з карысным? А менавіта, стаць кардыяхірургам. Тым больш, што маю неблагі вопыт работы з кансервавым нажом.

Разважаю, што мне для гэтай справы патрэбна. Скальпель пакуль што адзін, але ў перспектыве (як атрымаю першыя грошы) куплю яшчэ некалькі. Як думаеце, рэальна адным скальпелем зрабіць аорта-каранарнае шунціраванне?.. Што яшчэ? Мяркую, неабходна набыць кроваспыняльны клямар. Можа, хто падкажа нядрэнныя, танныя варыянты? Вату і тампоны куплю сам. Без астатняга інвентару можна і абысціся...

**Прачытала на форуме**
**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**


Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

## АСАБЛІВАЕ МЕРКАВАННЕ

З усіх краін сцякліся госці:
Праходзіць конкурс прыгажосці.
Ды ўсе адборачныя пробы
Бабулям штось не даспадобы.
Бубняць: «Сабралі кандыдатак,
Мадэляў тых — вялікі статак!
Але фігурыстых дзяўчат
Чамусь на конкурсе няшмат.
Затое колькі тут гарбатых,
Худых, як швабры, і цыбатых!..»

Суду бабулек у двары
Не ўказ ніякае журы.

*г. Мінск.*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК**




Нгома быў родам з Кеніі. Працаваў рабочым на аптовым складзе. У калектыве яго любілі за рахманасць і працавітасць. Нікога асабліва не цікавіла, як чарнаскуры хлопец трапіў у Беларусь. Таксама ніхто не высвятляў у аддзеле кадраў: Нгома – гэта імя, прозвішча ці мянушка. Навошта? Нгома – добры чалавек. Наш чалавек!

Праўда, спачатку Нгома быў як быццам не зусім «наш». Калі мужчыны пасля змены скідваліся «па рублю», Нгома «рубель» даваў, але ад выпіўкі адмаўляўся. Потым, з цягам часу, раз-пораз усё ж пачаў заходзіць з хлопцамі ў «зялёны рэстаран». Так паціху і «ўліўся» ў калектыў. Не злоўжываў, але ад іншых не адставаў.

Так прайшло некалькі гадоў. У чарговы адпачынак зазбіраўся Нгома дадому. «Амаль дзесят гот не біў! Трэба!» Праводзілі як мае быць: назбіралі грошай на сувеніры, далі наказ на дарогу, словам, выправілі.

Нгомы не было два месяцы. Нават крыху сумнавата зрабілася без яго жартаў з характэрным акцэнтам. Ды ўсё калі-небудзь канчаецца, скончыўся і адпачынак Нгомы.

З'явіўся той на працу радасны, ззяў, як самавар. Мужчыны абступілі, вітаюцца, жартуюць.

– Распавядай, – кажуць, – як справы дома, чаму такі вясёлы?

– Прыехаў я дадому, – пачаў расказваць Нгома, – шмат ежа купіў, шмат гарэлка. Уся радня сабраўся – цэлых два вёска! Сталы паставіў. Піць-есці сеў. Усе сеў. Але не ўсе ўстаў. Доўга еў, піў. Уся радня як адзін пад сталы лёг. А я сяджу – як белій чалавек!

І з такім непадробным гонарам гэта было прамоўлена, што грымнулі разам усе (і «белій чалавек» гучней за ўсіх) – і ад інтанацыі прамоўленага, і ад радасці сустрэчы, і ад пачуцця сапраўднага мужчынскага таварыства, і проста таму, што жыць усё ж такі добра...

А Нгому пасля таго інакш як «Нгома – белы чалавек» і не звалі.

Ён не крыўдзіўся і толькі паказваў у шчырай усмешцы ненатуральна белыя на чорным твары зубы.

*г. Мінск.*




*Калі ў вас няма грошай, вы ўвесь час думаеце пра грошы. Калі ў вас ёсць грошы, вы ўжо думаеце толькі пра грошы.*

Пол Гецi
(амерыканскі
нафтапрамысловец)



Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.




* * *

Нібы аса ці авадзень,
Рэклама з намі дзень у дзень.
З пагляду быццам неблагая,
Ды па кішэні добра джгае.

* * *

Мог даўно купіць кватэру,
Мэблю, лецішча, аўто...
Мог, але я свята веру:
Хутка выйграю ў лато!







* * *

Футра я сабе купіла,
Сем мужчын прываражыла.
Немаўлятку год ужо...
Футра ёсць – няма мужоў!

**Уладзімір РУНЦЭВІЧ,**
*г. Мар'іна Горка.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# Анекдоты вершаваныя

## «Пераблытаў»

– А ты не блытаеш?
Няўжо сказала мама,
Цябе паслаўшы
ў краму аднаго,
Купіць цукерак
аж тры кілаграмы,
А бульбы –
дзвесце грамаў усяго?..

## Поўнае алібі

– Нас з маці заўтра
ў школу выклікаюць!
Прызнайся,
што ты сёння нарабіў?
– Нічога, тата!
Хай яны не маняць,
Бо ў школе сёння
я зусім не быў!

## Выгадная прапанова

– Калі на скрыпачцы, сынок,
крыху пайграеш,
Табе я шакаладку абяцаю!
– Ды тата мне
аж дзве паабяцаў,
Каб толькі я
па вечарах не граў!

*г. Чэрвень.*

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 1 (1504), 2014 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».



**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, г. Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62,***
***намесніка галоўнага рэдактара, аддзелы фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкі — 284-84-52,***
***бухгалтэрыі — 287-18-81,***
***факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 14.01.2014
Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,50. Тыраж 1724 экз.
Заказ 92.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Руслана БОГУША.







Малюнкі Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Народ кажа...

## «Беражыся каровы спераду, а каня — ззаду»



## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

Я не спазніўся падпісацца на «Вожык»!.. А вы?



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2014 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 19400 руб.,
індэкс 01380, цана 15500 руб.,
індэкс 748442, цана 52700 руб.,
індэкс 01381, цана 41500 руб.

**Падпісацца можна ў любым паштовым аддзяленні і ў магазінах РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — праз банкаматы, інфакіёскі і банкі, а таксама з дапамогай электронных грошай.**

